## IŁŽYVYJA PAŽADAŃNI TEHERANU

Spatkańnie Ruzvelta, Čarčyla iz Stalinam, jakoje adbyłosia 2. 12 u Teheranie. jak heta było da pradbačańnia było tolki adnym prapahandnym blefam. Padrabiazna ab hetym spatkańni padamo ŭ nastupnym numary.

# Агляд беларускай прэсы

«Баранавіцкая Газэта» ў перадавіцы № 93 піша:

«На ўсходніх рубяжох нашае Бацькаўшчыны-Беларусі трывае зацятае змаганьне. Адвечны вораг беларускага народу маскоўскі імпэрыялізм, на гэты раз у постаці жыда-бальшавізму, штурмуе нямецкі фронт, які бароніць нашую зямлю, нашыя хаты і сем'і ад пагібелі і зьнішчэньня, што нясуць із сабой сталінавыя арміі.

Усе сілы напружылі бальшавікі, каб зламаць гэты фронт. Нячуваную колькасьць танкаў, гарматаў, самалётаў кінулі яны на поле вялізарнейшае ў сьвеце бітвы, а перадусім міліёны зьбянтэжаных людзей, як заўсёды спадзяючыся перамагчы колькаснай перавагай. Міліёны гэтых людзей гінуць і бальшавікі, прымушаныя хапацца за ўсе сродкі, каб папоўніць прарадзелыя шэрагі атакуючых калёнаў. Яны змабілізавалі ў сябе пагалоўна ўсё, нават зьняволеных, прысуджаных на прымусовыя працы. Нават жанчын і нялетніх маладых хлапцоў па 14—16 гадоў, вучняў гэтак званых ФЗО і ледзь апрануўшы і навучыўшы трымаць ружжо кідаюць шчодра ў крывавую лазьню на фронт.

Выдаецца часам, што нейкае шаленства напала на іх. Калі-б прасачыць паведамленьні нямецкага камандаваньня за апошнія месяцы, мімаволі паўстае пытаньне чаму бальшавікі рызыкуюць аднаго дня застацца без патрэбнае жывое сілы. Чым гэта можна вытлумачыць?

Мы далёкія ад таго, каб займацца запаведзямі і прароцтвам. Але цьвярозы розум кажа нам, што падобныя зацятыя натугі, можа рабіць толькі той, хто знаходзіцца на рубяжы катастрофы. Толькі той, хто пачынае тануць можа зрабіць нялюдзкія высілкі, каб ратавацца. А гэтыя сёлетнія высілкі бальшавікоў вельмі прыпамінаюць сабою танучага.

Скупыя весткі, што дастаюцца праз фронт, даводзяць мяноўна гэтае. Голад і эпідэміі, развал транспарту і прамысловасьці, ня кажучы ўжо аб сельскай гаспадарцы — гэта ўсё зьявішчы, якія не дазваляюць бальшавіком на роскаш чакаць і змусіць час працаваць на іх.

Бальшавікі ведаюць, што калі ім ня ўдасца пабіць немцаў, дык немцы бязумоўна зробяць гэтае раней ці пазьней з імі. Яны ведаюць, што перажыць другі нямецкі наступ у стылі 1941 або 1942 году яны ўжо ня змогуць, што гэта гразіць ім поўным разгромам і пагібельлю. Таму яны кідаюць усе свае людзкія і матэрыяльныя запасы, каб дабіцца хутчэйшае развязкі. Толькі гэтым можна вытлумачыць тое пушчаньне крыві, якое бальшавіцкае камандаваньне робіць ужо шосты месяц сваёй баёвай сіле.

Робяцца зразумелымі словы Правадыра Адольфа Гітлера, сказаныя ім у ягонай апошняй прамове 8 лістапада ў Мюнхэне, што гэтае волатнае змаганьне будзе выйгранае тым, хто апошні зложыць зброю, а гэтым апошнім будзе Нямеччына. Выйграе той, хто будзе больш станоўкі, хто будзе мець мацнейшыя нэрвы і ні ў якіх абставінах не страціць іх.

Усё вышэйсказанае павінна быць заўсёды ў памяці кожнага з нас. Вораг сваёй прапагандай імкнецца ўдарыць мяноўна з гэтага боку. Дзе пагрозамі, дзе пашырэньнем хлусьні аб быццам нязможанай сіле бальшавізму, бязглуздзіцай аб няўхільнасьці гэткага гістарычнага разьвіцьця, што бальшавізм ня можа не перамагчы, ён імкнецца падарваць у людзей веру ў свае собскія сілы, стварыць атмасфэру панікі, у якой слабыя духам могуць страціць нэрвы. Акты тэрору, скіраваныя супроць паасобных людзей таксама маюць на мэце выклікаць падобныя настроі. З гэтага толькі можна выснаваць, якое гэта мае значэньне для ворага.

Зьнівэчыць намеры ворага ёсьць штодзённы абавязак кожнага з нас. Перамагаць гэтыя настроі, вытыкаць панікёрам і шаптуном іх шкодную ролю пры нашым змаганьні, а калі гэта не дапаможа, дык выцягнуць іх за вушы на дзённае сьвятло — вось ня менш адказнае заданьне.

Беларуская моладзь, пакліканая ў шэрагі бараніць свой народ, мае права на тое, каб гэты народ шчыльным мурам стаяў за ёю, пэўны справядлівасьці яе змаганьня, яе сілы і непераможнасьці.

**В. Існы.**

«Новая Дарога» у перадавіцы № 44 піша:

«Гісторыя працавала для нас. У сучасным вялікім змаганьні двух сьветаў — новага сьвету Працы і старога прагніўшага капіталістычна - бальшавіцкага, перад нашым народам адчыняецца вялікая будучыня. Цяпер нашая праца атрымоўвае іншы сэнс і іншае значэньне. На сцэну гісторыі выходзіць цяпер беларус у мокрай сарочцы, які сваёй працай перабудуе да грунту жыцьцё Беларусі. Праца сёньня — гэта усё. Не капітал, не прывілегіі, ня спадчына зьяўляюцца сёньня вырашаючымі ў нашым жыцьці, а праца. Гэта найбольшы капітал, які мы маем у наяўнасьці і якім мы можам зраўняцца зь іншымі народамі.

Бальшавікі таксама шмат гаварылі а[illegible] працы. Яны нават выдумалі «сацыялістычнае спаборніцтва» і «стаханаўшчыну». Але праца гэтая была яшчэ большым нявольніцтвам, чым за часоў эгіпэцкіх фараонаў або паншчыны. Яна служыла для мэтаў сусьветнага жыдоўства, якое шляхам рэвалюцыі імкнулася запанаваць над усім сьветам. Праца гэтая нясла нам ізноў калгаснае і стаханаўскае рабства. Беларус пад бальшавіцкім панаваньнем мусіў ізноў працаваць на другіх, а не на сябе. Расейцы і жыды былі гаспадарамі ў гэтым «раі».

Мы ведаем адно: толькі свабодная праца ў вольнай Беларусі, дзе сам беларус будзе каваць сваю долю, прынясе нам сьветлую будучыню.

Таму мы змагаемся разам з Нямеччынай супроць тых, хто панявольваў наш народ. Нямеччына скінула путы польскай і бальшавіцкай няволі з нашага народу. У зацятым змаганьні за сваю волю мы дапамагаем сваёй працай тым, хто нам жадае лепшага жыцьця. Працуючы сёньня на палёх і фабрыках, мы працуем для свайго аканчальнага вызваленьня.

Прыдзе час, калі сыны Беларусі зажывуць шчасьліва на сваёй зямлі і ня будуць кланяцца ля чужых парогаў. Сёньня на ўсхмараным небасхіле нашае дарагой Бацькаўшчыны віднеецца ўжо постаць беларускага жаўнера, які з вінтоўкай у руках стаіць на варце. Сёньня мільёны беларусоў працуюць шчыра і аддана, каб здабыць сабе вольнае незалежнае жыцьцё.

З-за хмараў ваеннае завірухі ўжо прабліскваюць новыя сьветлыя дні нашага вольнага жыцьця.

Чым больш напружым мы цяпер свае сілы, чым больш мы папрацуем да мокрае сарочкі, тым бліжэй будзем мы да сваёй незалежнасьці. У новым сьвеце Працы беларускі народ зойме належнае Яму месца сярод іншых народаў і будзе працаваць ужо не на другіх, але на самога сябе».

# Беларускія весткі

### СЛОНІМ.

У хуткім часе мяркуецца адчыніць у Слоніме мастацка-прамысловую школу. Цяпер ідуць там падрыхтоўчыя працы дзеля ажыцьцяўленьня гэтага пляну. Згодна з жаданьнем групы маладых здольных мастакоў і настаўнікаў школа мае быць адчыненая ўжо ў першых месяцах наступнага 1944 году.

У школе побач з практычнымі будуць праводзіцца і выклады з тэхнікі і тэорыі. У сувязі з адчыненьнем гэтай школы, на пачатку новага году ў Слоніме мае быць адчыненая выстаўка малярства, да якой група мастакоў аддана рыхтуецца. Выстаўка хоча аб'яднаць усе маладыя малярскія і мастацкія сілы Слонімшчыны і горача заклікае ўсіх мастакоў да супольнае працы.

### ГАНЦАВІЧЫ.

Пры дапамозе сп. Акруговага Камісара, у Ганцавічах адчыняецца беларуская Настаўніцкая Сэмінарыя. У бягучым школьным годзе маюць адбывацца заняткі толькі ў першай клясе. У сэмінарыю прыймаюцца хлапцы і дзяўчаты ў веку ад 14 ад 17 гадоў, скончыўшыя савецкую або беларускую народную школу.

### БЕЛАСТОК.

Беларускае аб'яднаньне ў Беластоку зьвярнулася да адпаведных уладаў з праектам адчыненьня 6-ці месячных настаўніцкіх курсаў. На курсы будуць прыймац[illegible]асобы з закончанай сярэдняй агульнай або незакончанай асьветай. Курсы будуць адчыненыя ў Беластоку або Горадні.

*

Беларускае Аб'яднаньне ў Беластоку пляпуе ў хуткім часе зарганізаваць цэлы рад выступаў вядомага беларускага драматурга Фр. Аляхновіча і беларускага паэта М. Сяднёва, якія доўгі час сядзелі ў савецкіх турмах і канцэнтрацыйных лягерах. Яны раскажуць беларусам Беласточчыны аб савецкім раі», у якім жыдоўска-бальшавіцкія каты нішчылі беларускі народ. Лекцыі будуць прачытаныя ўва ўсіх вялікіх гарадох і мястэчках.

### НОВАЯ ВОЛЯ.

27 лістапада адбыўся ў Новай Волі беларускі сход, на якім прамаўляў Старшыня Беларускага Аб'яднаньня ў Беластоку. На сход мелі зьехацца сяляне з акалічных вёсак, але размоклая дарога і непагода перашкодзілі гэтаму. Старшыня ў доўгай прамове расказаў сялянам аб заданьнях беларусоў у сучасны момат. Беларускі народ павінен арганізавацца, каб здабыць сабе сьветлую долю. Мы ўжо добра пазналі чужую апеку палякаў і бальшавікоў. Настаў час, калі наш народ хоча быць гаспадаром у сваёй хаце. Шчыра і моцна сказаў гаспадар аб той палітыцы, якую вялі чужынцы на нашай зямлі. Гэтую палітыку адчулі і нававольцы занадта добра на сваёй скуры. Бальшавікі рознымі ашуканствамі і няпраўдамі змусілі частку сялян Новай Волі пайсьці ў калгас. Пасьля кароткага часу аказалася ўся бальшавіцкая ілжа. За цяжкую працу калгасьнікі атрымалі па кілёграму жыта на працадзень. Каб далей так пайшло, дык прышлося-б галадаваць. Добра, што мелі старыя запасы.

Калгас нававольцы цяжка перажылі. Яны ўжо скаштавалі калгаснага хлеба і больш ня хочуць нават чуць аб гэтай савецкай паншчыне.

Нававольцы — дружны народ. Уся вёска на чале із солтысам дзейна дапамагае тром настаўнікам у іх працы. У часе вайны ад бомбы, якая ўзарвалася недалёка ад школьнага будынку, пашкоджаны моцна дах. Вёска дружна ўзялася за рамонт школы. 5-га сьнежня дзеці пачнуць вучобу.

**З нагоды 50 угодкаў нараджэньня і 20 угодкаў грамадзкае беларускае нацыянальнае працы вітаем нашага супрацоўніка і нязморанага змагара, дзеяча і жаўнера, Палкоўніка Канстантага ЕЗАВІТАВА найлепшымі пажаданьнямі далейшае плоднае працы для дабра нашага народу.**

**РЭДАКЦЫЯ „РАНІЦА“.**

**Аляксандар Яксім.**

# Граф М. АГІНСКІ і ягоны плян утварэньня Беларускага (Літоўскага) Вялікага Княства

**(Гістарычны нарыс)**

Тымчасам, калі Напалеон і ягоныя палітычныя прадстаўнікі старанна хавалі на публічных выступленьнях свае сапраўдныя намеры пачаць вайну супроць Расейскага царства, — толькі пэўныя, нялічныя, больш утаямнічаныя адзінкі з Наполеонавага асяродзьдзя знялі праўдзівую думку французкага імпэратара.

Чакаючы толькі на адпаведны, больш прыхільны мамэнт, каб пачаць ваеннае выступленьне, Наполеон гаварыў: «Расея была занадта моцнай каб магла тварыць частку гэтае палітычнае сыстэмы Эўропы, тварцом якое быў я і цэнтр якой знаходзіўся ўва Францыі... Расея ўсім сваім цяжарам цíснула на верхнюю частку гэтага будынку». І ў выніку сваіх палітычных канцэпцыяў Наполеон пастанавіў: «Таму трэба было адкінуць Расею за межы Эўропы, каб яна ня шкодзіла задзіночаньню мае імпэрыі»[1]).

Гэткім парадкам, ужо тады (1810—11 г.) быў скрышталізованы ваенны плян Наполеона супроць Расеі. У гэты плян унаходзіла таксама актыўнае ўцягненьне ў вайну заходніх народаў царскай імпэрыі, між іншымі таксама і паняволеных народаў калісь самастойнага Беларускага, Вялікага Княства Літоўскага. Плян — супольны як для францускага імпэратара, так і для расейскага цара.

Палажэньне на заходніх межах Аляксандравага царства рабілася штораз цяжэйшым і больш няпэўным. Шмат адзінак, а нат' цэлыя групы беларускага грамадзтва чакалі на гэтую вайну, як на зьдзейсьненьне сваіх нацыянальных і палітычных лятуценьняў. Адныя злучалі свае надзеі з прыходам Наполеона, іншыя шукалі ўжыцьцяўленьня іх у супрацоўніцтве з Аляксандрам.

На асноведзі гэтага пэрыяду гісторыі, у ланцугу гэтых эпахіяльных здарэньняў у дзеях ня толькі нашых, але ўсяе Эўропы, як ясная зорка ў цемры блíснула на кароткі час і нашая нацыянальная справа.

А ейным аўтарам быў якраз граф Агінскі, прозвішча якога зьяўляецца так добра ведамым кожнаму беларусу ў сувязі з назовам каналу ягонага імя на нашым беларускім Палесьсі.

Сын Беларускага Народу, ён як і шмат хто з беларускае шляхты гэнае пары, у часох польскага панаваньня на нашай зямлі, у выніку тагачасных палітычных і рэлігійных абставінаў на Беларусі, таксама падаўся моцным польскім культурным упдывам. І былі пэрыяды ў жыцьці Агінскага, што гісторыку цяжка азначыць ягоную нацыянальную прыналежнасьць.

Але, калі на гадзіньніку нацыянальнае беларускае гісторыі пачаў надыходзіць час «без пяцёх мінут дванаццаць», калі на даляглядзе нашага нацыянальнага жыцьця пачала зьяць раніца магчымае свабоды, мы бачым у Агінскага тое, што зьяўляецца так кожнаму беларусу: прабуджэньне нацыянальнага пачуцьця, нацыянальнага адзінства і прыналежнасьці, любасьці собскага Народу і Бацькаўшчыны, жаданьне волі і чыну... І вось Агінскі, знайшоўшы сябе самога, бярэцца за актыўную нацыянальную працу.

Сягоньня мы, з пэрспэктывы часу, можам сабе паставіць адно пытаньне: ці на належны адрыс былі скіраваныя нацыянальныя намаганьні графа Агінскага, ці пайшоў ён правільнай палітычнай дарогаю, жадаючы зьвязаць лёс Бацькаўшчыны з магутнай царскай імпэрыяй?...

Ня выносячы прысуду наўперад аб гэтай справе, мы спадзяваемся, што на гэтае пытаньне адкажа наш будучы сумленны гісторык, якому пашчасьціцца калі-небудзь знайсьці патрэбныя дакумэнты.

Мы тутака падыйдзем толькі да самага факту плянаў графа Агінскага, як да факту гістарычнага.

Будучы ў 1810 годзе ў Парыжы, граф Агінскі, які ўжо тымчасам прыняў тытул расейскага сэнатара, а сам асабіста пераканаўся ў падрыхтоўваньні французаў да ваеннага выступленьня супроць Расеі.

У студзені 1811 году пакідае Парыж і кіруецца ў Пецярбург. Тымчасам князь Чартарыйскі, ведамы правадыр польскага нацыянальнага руху, каб здыскрэдытаваць Агінскага ў вачох цара Аляксандра, дзеля асабістага патужніцтва ў цара і перашкоджаньня палітычным, неадпаведным для князя Чартарыйскага, плянам графа, піша да расейскага цара, **«Даведаўшыся, што сп. Агінскі падаўся ў Пецярбург, я ўважаю за свой абавязак перасьцерагчы Вашую Вялікасьць, што ён** (г. зн. гр. Агінскі, заўвага нашая) **не карыстаецца ў нас** (г. зн. палякоў — заўв. нашая) **спэцыяльным уплывам, ані пашанай...»**[2])

Тымчасам гр. Агінскі, на падставе асабістых гутарак і з высака пастаўленнымі і адказнымі адзінкамі францускага ваеннага і дыплёматычнага сьвету, набраў перакананьня, што Наполеон ня зьдзейсьніць імкненьняў паняволеных Расеяй заходніх народаў царскага валадарства, што цар Аляксандар таксама ўсё хістаецца ў сваіх плянах што да падбітых заходніх народаў — паміж зваймі палітычнымі думкамі і расейскім імпэрыялізмам.

Агінскі быў прыняты царом 25-га красавіка. Тутака ён сьмела пачаў гаварыць Аляксандру аб хісткасьці і шкоднасьці расейскай палітыкі, аб вялізарных падрыхтаваньнях да вайны з боку Наполеона, які маніцца ўцягнуць у сваю справу і палякоў абяцанкай палітычнае незалежнасьці. маючы надзею такім парадкам станоўча ўплыць на пастанову цара ў галіне сваіх плянаў.

Калі ў адказ на гэтае Аляксандар зазначыў, што ў сучасны мамэнт палякі так наэлектрызаваныя абяцанакай утварэньня іхнага каралеўства, што немагчыма будзе зьвярнуць іх на дарогу рэчавае развагі, тады Агінскі, зручна выкарыстоўваючы абставіны гутаркі, якія стварыліся, прадставіў цару, як антыдотум (процiўдаўкі) францускай палітыцы, свой праект **утварэньня** з так званага ў Расеі «Северо и юго — западнего края» **спэцыяльнае тэрытарыяльна-палітычнае адзінкі:** БЕЛАРУСКА - ЛІТОЎСКАГА КНЯСТВА, якое абыймалаб частку калішняга Беларускага Гаспадарства, і. зн. восем тагачасных губэрняў: МЕНСКУЮ, ВІЦЕБСКУЮ, МАГІЛЁЎСКУЮ, ВІЛЕНСКУЮ, ГОРАДЗЕНСКУЮ, КІЕЎСКУЮ, ПАДОЛЬСКУЮ і ВАЛЫНСКУЮ.

Як бачым із вышэй пададзенага, праектаванае Беларуска-Літоўскае Княства графа Агінскага ня мела ў сабе якраз нічога

# Das Vorfeld von Europa

## Die rassische Bedeutung der Volksbezeichnung „weißrussisch“

Von Kriegsberichter Dr. Heinz Stolte

У сувязі з нястачай у нямецкай мове адпаведных публікацыяў на тэму Беларусі, ідучы за пажаданьнем нашых чытачоў, мы вырашылі артыкул сп. Др. Гайнц Штэльтэ зьмясьціць у нямецкім арыгінале, каб гэтакім чынам нашыя чытачы маглі паказаць сваім нямецкім працадаўцам, якая йсьць розьніца між беларусамі, расейцамі і палякамі.

**PK.** Mit den baltischen Staaten zusammen bildet Weißruthenien das Reichskommissariat Ostland, Viele von uns stehen nun schon fast zwei Jahre auf weißruthenischem Gebiet. Mancher wird sich gefragt haben, was dieser seltsame Name bedeutet. Sich selbst nennen die Weißruthenen »Bjelarussy«, d. h. »Weißrussen«. Es liegt nahe, diesen Namen politisch zu deuten und darin einen Gegensatz zum »roten Rußland« zu sehen. Tatsächlich hat man in der Zeit der bolschewistischen Revolution auch die zarentreuen Gebiete »weißrussisch« genannt. Aber als Name dieser Landschaft und dieses Volkes hat weißrussisch keinen politischen, sondern einen rassischen Sinn.

Wer mit offenen Augen durch die Dörfer und Städte dieses Landes gegangen ist, wird immer wieder gefunden haben, daß die Menschen hier in der Tat von einer etwas anderen Rasse sind als etwa die Großrussen, die wir im Raum von Moskau schon einmal kennen gelernt haben, anders auch als die Bewohner der Ukraine. Diese beiden sind die dunklen Typen der ostslawischen Völkerfamilie. Die Weißruthenen stellen ihnen gegenüber den hellen Typus dar. Mit blondem Haar, blauen Augen und weißer Hautfarbe haben sie am meisten die ursprünglich nordischen Merkmale der slawischen Rasse bewahrt.

Auch durch seine Geschichte ist Weißruthenien sehr eng mit Westeuropa verbunden. Dieser Volksraum war bis in das 13. Jahrhundert hinein politisch zusammengehalten worden durch das Fürstentum Polozk, das in der Zeit der alten Normannenherrschaft (Waräger) dem Großfürstentum von Kiew unterstand. Als dann um das Jahr 1240 die Tataren fast den gesamten russischen Raum unterwarfen, blieb Weißruthenien doch allezeit von der Tatarenherrschaft frei. Damals bildete sich als starker Schutzwall gegen die Eindringlinge das Großfürstentum Litauen. Trotz des Namens Litauen waren Heer und Verwaltung dieses Staates doch zu neun Zehntel weißruthenisch und noch im 16. Jahrhundert war Weißruthenisch die Kanzleisprache Litauens. Damals erlebte dieses Volk seine kulturelle Blüte, ohne daß aber daraus ein politisch gefärbter Nationalgedanke hätte entstehen können. Vielmehr empfanden die Weißruthenen noch bis in das vorige Jahrhundert hinein ihre Gemeinschaft mit Litauen so stark, daß ihre Wortführer im kulturellen und politischen Kampf gegen das Großrussentum sich »Litwiny« d. h. Litauer nannten.

1415 wurde auch Polen mit dem litauischen Staate zu einer Union zusammengeschlossen. In diesem politischen Verbande wurde seit 1633 Polen führend und Weißruthenien geriet infolgedessen unter polnischen Einfluß. Ein heftiger Kulturkampf setzte ein, der polnischerseits das Ziel einer Entnationalisierung der weißruthenischen Adelsschicht und einer Katholisierung der weißruthenischen orthodoxen Kirche hatte. Die Folge davon war, daß das Weißruthenische den Rang einer Literatursprache mehr und mehr verlor und eine nur gesprochene, nicht mehr geschriebene Bauernsprache wurde. Der Zugang zur hohen Kultur und zum gesellschaftlichen Leben aber war nur über das Polnische und später, nach der Angliederung der östlichen Gebiete an Moskau unter Katharina II., über das Russische möglich.

Franzischek Bahuschewitsch (1840 bis 1900), der nationale Vorkämpfer des Weißruthenentums, mußte daher sein Volk erst wieder auf die Bedeutung der eigenen Sprache hinweisen und zur Schaffung einer neuen weißruthenischen Literatur auffordern. Im Weltkriege 1914—18 bemühte sich die deutsche Besatzungsmacht erfolgreich um die Begründung eines weißruthenischen Schulwesens, darüber hinaus darum, dem nationalen Gedanken seinen Ausdruck in einem besonderen Staatswesen zu geben. Am 25. März 1918 wurde eine unabhängige weißruthenische Sowjetrepublik ausgerufen, der am 1. Januar 1919 vom Kreml die weißruthenische Sowjetrepublik von Smolensk entgegengestellt wurde. Dieser Raum war dann einige Zeit Streitobjekt zwischen Polen und Rußland, bis im Frieden von Riga 1921 der größere Teil an die Sowjetunion fiel und die weißruthenische Sowjetrepublik in Minsk geschaffen wurde.

Die Zahl der Weißruthenen beträgt nach ihren eigenen Schätzungen etwa 13 Millionen. Konfessionell gehörten davon 1897 vier Fünftel der orthodoxen, ein Fünftel der katholischen Kirche an.

Die Sowjetregierung hat seit 1930 zugleich mit der Kollektivierung der Landwirtschaft eine scharfe Verfolgung des führenden nationalen Weißruthenentums begonnen. Seit der Besetzung des Landes durch deutsche Truppen wird versucht, aus den Trümmern einer alten nationalen Kultur das weißruthenische Volkstum wieder erstehen zu lassen. Dieser Raum ist damit — wie in den Zeiten der Tatarenherrschaft — Vorfeld Europas gegen die anflutenden Kräfte des Ostens geworden.

«M. Z. am Abend» Nr. 252 — 27. 10. 43.

## Небяспечныя сужэнствы

Аб тым, што беларусы мужчыны бяруць сабе жонак небеларускай народнасьці дый беларускія жанчыны не грэбуюць чужароднікамі ведама з перасьцерагаючых артыкулаў нашых часопісаў.

Але-ж літоўскі штодзеньнік «Атэйтіс» (Будучыны), які выдаецца ў Коўні дае надта цікавую статыстыку натуральнага руху жыхароў Вільні ў апошнія гады.

У 1940 годзе з 18 беларусоў толькі 4 жаніліся на беларусках, 13 узялі сабе жонак польскага паходжаньня. У 1941 годзе ажанілася 46 беларусоў, з іх толькі 13 з беларускамі. 19 беларусаў ажанілася з полькамі, 4 з ліцьвінкамі.

Трохі палепшыліс гэтыя справы ў 1942 годзе. З 16 ажаніўшыхся беларусоў ужо 5 узялі сабе жонак-беларусак,, 8 ажаніліся з полькамі і 2 з ліцьвінкамі. У 1943 годзе 5 беларусоў ажаніліся з полькамі.

Ня лепш было і з беларускамі.

У 1941 годзе толькі 1 ліцьвін абраў сабе жонку беларуску, 11 беларусак трапіла па-

У 1941 годзе толькі I ліцьвін абраў сабе жонку беларуску, II беларусак трапіла палякам.

У 1942 годзе беларусак абралі сабе жонкамі, як і ў 1940 годзе, 4 ліцьвіны і 5 палякоў.

Нарэшце за першыя 9 месяцаў 1943 году зноў 4 беларускія жанчыны вышлі замуж за ліцьвіноў, палякі за гэты самы час узялі сабе жонкамі 22 ліцьвінкі, 7 маскаляк і ані воднай беларускі.

Часапіс лічыць, што ліцьвінамі мяшаныя сужэнствы прынятлівыя, бо сучасныя ліцьвіны, выхаваныя ў новай Ліцьве надта загартаваныя людзі і могуць жаніцца з чужароднымі жанчынамі.

Але-ж вялікая небясьпека пагражае беларусам, піша часапіс, бо яны спольшчываюцца. «Беларус ці беларуска, трапіўшая ў мешаніну сяньня — гэта магіла беларускасьці». Лепш трымаюцца ў Вільні маскалі, але-ж і ў іх ужо шмат хто з моладзі знае сваёй прыражонай мовы.

Агульная статыстыка руху жыхароў Вільні:

| гады | жыхароў агулам | нарадзілася | жанілася | памёрла |
|---|---|---|---|---|
| 1939 | 240 000 | 3 306 | 1 910 | 2 734 |
| 1940 | 255 000 | 3 250. | 2 392 | 2 963 |
| 1941 | 187 134 | 3 171 | 2 698 | 3 499 |
| 1942 | 160 035 | 3 041 | 1 615 | 2 539 |

У нашым нацыянальна-маральным адраджэньні, у шмат прыпадках наглядаецца нястача да пэўнае меры пасьлядоўнасьці ў прыватным жыцьці. Гэта найболей ярка праяўляецца ў нашай занадта вялікай талеранцыі, у арганізацыі сем'яў, лепш кажучы, у мешаных, пад нацыянальным поглядам, жанімствах. Артыкул «Небяспечныя сужэнствы» ярка паказвае гэтую небясьпеку. Нельга нам забывацца, што першым абавязкам патрыятызму зьяўляецца залажэньне здаровае нацыянальна-маральнае сям'і. А гэта магчыма толькі тады, калі абое сужэньнікі зьяўляюцца дзяцьмі нашага народу, які кахаюць больш чымся адно другое, для яго жывуць і працуюць. Гэтым вымаганьням бяз сумліву можа адказаць толькі сужэнства ў межах свае нацыі, **бо імкнуўшыся да шчасьця народу, шагаем гэтым самым да свайго собскага шчасьця.** Ясна, што гэтыя імкненьні ня могуць знайсьці водгуку ў душы нятолькі чужога прадстаўніка, а нават варожага нам суседа. Ніколі нельга забывацца, што ня можа кахаць шчыра беларуса ці беларуску гэткі чужынец, які сам ненавідзіць беларускі народ. Ненавідзіць ён кожнага з нас паасобку. Гэтакі чалавек ніколі ня будзе нас кахаць як гэтым самым падрадка нядасца і яго пакахаць, гэта ёсьць ненатуральнае і супярэчнае натуры чалавек. Ясна, здараюца вынняткі, аднак яны гэтак нешматлікія, што над імі ня будзем тут застанаўляцца. Пробуюць ізноў некаторыя бараніць, што мяшаныя сужэнствы пашыраюць нашу біялягічнуюэкспансыю, гэтак доўга як мы яшчэ зьяўляемся ў стадыі барацьбы за нашае існаваньне як народ здабычы гэтак дробныя ня ў нашым памеры ні аблічэньнях. Нашто некага пераўзгадоўваць, калі пры гэтай калькуляцыі на іншым адрэзку трацім свой ужо ўзгадованы матарыял. Нашыя чытачы а галоўна мужчынская моладзь, да Вас гэтыя словы. Памятайце, што першым абавязкам прад Бацькаўшчынай гэта залажэньне здаровае і вартаснае маладое сям'і. Нашым лёзунгам тут на чужыне а таксама і на Бацькаўшчыне ёсьць: **«Не жаніся з чужынкай».**

Рэдакцыя

**DA NAŠYCH PADPIŠČYKAŬ**

**Hazeta vyšła z apaźnieńniem z pryčyn ad nas niezaležnych. Pry ŭsiakaj karespandencyi da Redakcyi prosicca zaŭsiody padavać Nr. padpiščyka, jaki jošć na kožnym adrasie.**

**Ŭsiu karespandencyju prosicca kiravać na adrys: Berlin NW 87, Schliessfach 34, Weissruthenische Zeitung «Ranica».**

## Шукаюць

Стрыечную сястру **Клаўдыю Лойка,** якая да вясны гэтага году жыла ў вёсцы Забалаць, Койданаўскага павету, Менскай акругі, а пасьля выехала на працу ў Нямеччыну, шукае: Alfred Radjuk, Riga, Bismarckstraße 5—10.

Ветліва прашу ўсіх, хто ведае аб лёсе **Камароўскай Ніны,** выехаўшай на працу ў Нямеччыну ў жніўні 1943 г., паведаміць па адрасу: Wasil Kamaroŭski, Berlin-Mahlsdorf I, Kleeackerweg 22, b. Müller.

За рэдактара — **Станіслаў Грынкевіч.**
**Hauptschriftleiter und für den Inhalt verantwortlich: Stanislaŭ Hrynkiewitsch,** Berlin NW 87, Schließfach 34. — Druck: Gebr. Radetzki, Berlin SW 68, Friedrichstraße 16.

«Праекту» прапануе як урадовую мову... польскую. Беларускае княства з польскай мовай. Гэта выглядае так, як-бы гаворачы катэгорыямі тагачаснае пары, тварэц францускай імпэрыі, Напалеон, зажадаў, скажам, расейскай мовы ў дзяржаўным жыцьці Францыі.

I тутака для М. Агінскага, які выйшаў з беларускага народу, а ўзгадаваўся ў польскіх культурных абставінах, ня было іншае мовы, як польская, дарма, што ўва ўсёй Беларусі, за вынняткам спалянізаванае шляхты і магнацтва, гэтае мовы ніхто ня ўмеў. Агінскі, здаецца, забываецца ў гэтым мамэнце на ўсю гісторыю старадаўнае беларускае культуры, ня памятуе аб магутным і вылучным уплыве беларускае мовы на дварох Вялікіх Беларуска-Літоўскіх Князёў, пераходзіць да дзённага парадку над Беларускім (Літоўскім) Статутам, гэтым гэніяльным творам беларускага духу... Тутака на Агінскім, як і да яго падобных, выціснула сваё таўро пастанова Варшаўскага сойму з 1697 году і расейскія загады, якія забаранялі карыстацца ў дзяржаўных дачыненьнях на Беларусі беларускай мовою.

I вось Агінскі ў гэтай галіне зьяўляецца ахвярай чужых уплываў, ахвярай, якая не патрапіла ў вызначаным мамэнце зьвярнуцца да мовы сваіх дзядоў, мовы — якую, пад уплывам чужых дзейнікаў, уважаў можа за нешта ніжэйшае, як мова перамжцаў, за мову сялян.

*

Цар Аляксандар, выслухаўшы зацемку і праект Агінскага, нічога не адказаўшы, скіраваў іх далей дзеля разгледжаньня.

Глыбока памыляўся граф Агінскі, думаючы, што Аляксандар запраўды маніўся ўтварыць прапанаванае Агінскім Беларускае Княства. Цару перад надыходам расейска-францускай вайны былі патрэбныя толькі прыхільныя дачыненьні жыхароў Беларусі. I пад гэтым поглядам ён рабіў усё, каб здабыць сабе давер і адданасьць.

«Я чуў — сказаў цар у верасьні 1811 г. Агінскаму — што вы едзеце ў Літву. Скажэце вашым землякам, што я думаю аб іх, што я займаюся іхным лёсам, жадаю палепшыць яго, і магчыма, я буду мець хутка нагоду давесьці ім гэта, **я лічу на іхную адданасьць і жадаю ад іх даверу».**

I вось тутака вылезла шыла з мяшка. Калі аднак Агінскі выказаў Аляксандру сваё ўражаньне аб няздэцыдованасьці цара ў гэтай справе, у адказ на гэта ён пачуў наступныя словы імпэратара: «Якая пяздэцыдованасьць? Адно з двух: або, у выпадку вайны, я ствару Польскае Каралеўства ў такой-жа сувязі з Расейскай Імпэрыяй, як Вугорыя і Багэмія з Аўстрыяй, або, калі вайны ня будзе, я выканаю **наш вялікі плян што да Літвы».**

I вось цяпер, як бачым, утварэньне Беларускага Княства ўступае першае месца ідэі стварэньня Польскага Каралеўства. Беларусь — паводле царскіх слоў — мела-б паўстаць толькі ў выніку мірных абставінаў. Гэтакім парадкам Аляксандар з гарачага жаданьня беларускага Народу зрабіў сабе... прадмет імпэрыялістычных расейскіх камбінацыяў і наперад пастанавіў аб лёсе Беларусі: таму, што француска-расейская вайна была нямінуючай, тэрыторыя Беларусі далей мела тварыць частку расейскага царства пад вымоўным назовам «Северо-западного Края».

Тымчасам палітычныя падзеі ў Эўропе станоўча пераконвалі ў хуткасьці вайны паміж Францыяй і Расеяй.

Пры наступным спатканьні з Агінскім цар ужо зусім ясна выказаўся у справе Вялікага Княства.

«Мне толькі шкада, што мы ня будзем мець часу прывесьці ў выкананьне наш плян што да Літвы. Але цяпер ужо няма чаго думаць аб адміністрацыйных захадах і арганізацыі нашых 8 губэрняў, а трэба паруліцца аб узмацненьні сродкаў для абароны. Таму прашу Вас падаць мне вашыя погляды што да ваенных сродкаў, якія вашыя суродзічы у падпарадкаваных мне губэрнях маглі-б аддаць у маё распараджэньне».

Рэальная мова Аляксандра не магла не пераканаць М. Агінскага ў безнадзейнасьці справы. I запраўды далейшы ход падзеяў, самая вайна і надыход пасьля яе паваеннага пэрыяду зьяўлюцца довадам паступовага заняпаду пытаньня ў справе Беларускага Вялікага Княства. З дабрароднага ўздыму гр. Агінскага застаўся толькі гістарычны ўспамін для наступных пакаленьняў беларускага Народу. Застаўся толькі яшчэ адзін дакумэнт і сьветчаньне беларускай думкі аб незалежнасьці ці прынамся шырокай аўтаноміі.

А ўсё такі М. Агінскі, выконваючы загад цара, у сваёй новай зацемцы ад I. XII. 1811 году, ізноў з надзеяй вяртацца да справы стварэньня Беларускага Княства, як да умовы «сінэ ква нон», без якое зьяўляецца немагчымым паклікаданьне канкрэтнае вайсковае сілы на Беларусі, аб што якраз хадзіла цару Аляксандру. Зручна сугэруючы свой новы плян пакліканьня і стварэньня «літоўскай» арміі і прапануючы выкананьне гэтага пляну далучыць адпаведным, больш дасьведчаным адзінкам, гр. Агінскі ў сваёй зацемцы адначасна выказаў, як-бы на заканчэньне свайго патрыятычнага ўздыму ў справе Вялікага Княства Беларускага («Літоўскага»), наступныя, поўныя любасьці да Бацькаўшчыны, векапомныя словы:

«Не ў назове, ведама, праўдзівае шчасьце людзей, што належаць да якой-бы там не было народнасьці. У моц векавых пераваротаў, у Эўропе да гэтакай ступені пераблытаныя лёсы народаў і найменьні земляў, што знойдуцца мільёны людзей, якія ня ведаюць свае запраўднае Бацькаўшчыны. I аднак-жа слова **Бацькаўшчына** бязумоўна існуе. Яно ад старадаўных часоў зьяўляецца гарачай ідэяй праўдзівых мужоў краю. У ім ёсьць нейкае чароўнае прыгаство для ўсіх, каму дарагія гонар і цнота. Яно зьяўляецца парывальным лёзунгам усіх народаў, якія дазналі паняволеньне, і ніякая людзкая сіла не магла заглушыць яго ў доўгім радзе пакаленьняў».

Сьвятыя словы...

1) «Напалеон ау трібунал де Цаесар», «Чтенияе Общества Истории и Древностей», 1864 г. кн. бал. 133.

2) Ліст ад 2. IV. 1811 г. у архіве Царскай Бібліятэкі (шафа 113. паліца 4)

3) Трэба зазначыць тое, што таксама як і ўсе яму сучасныя, а нават далейшыя пакаленьні, ня выключаючы шмат якіх, менш усьведамленых гістарычна і навукова адзінак сучаснае пары — назовам **«Літвы»** называюць якраз **этнаграфічна чыста беларускія тэрыторыі.** Такім парадкам слова «Літва» зьяўляецца паняцьцем гістарычным, палітычным, і зусім не азначае жмудзкай нацыянальнасьці, а якраз наадварот — датычыць усяго, што беларускае. Таму ў наступных радках пад назовам «Літва» «літоўскі» і г д, якія ўжывае М. Агінскі, чытач павінен разумець заўсёды і вылучна — Беларусь, беларускую нацыю.

4) «Русский Архив», 1874 г. т. I, бач. 657.